# Толькі РАЗАМ



май 2011 №5 (10)

Інфармацыйна-культурніцкі лісток Гомельскага філіялу ТБМ. Выдаецца са жніўня 2010 г.

## у нумары







11 мая - дзень нараджэння знакамітага іспанскага мастака-сюррэаліста.

# восьмая нота

Кожны горад падобны на нейкую ноту, якую цягне ўжо сотні год, адвольна выбіраючы танальнасці і прыдумляючы свае парадкі размяшчэння дыезаў ды бямоляў у нотнай гаме. Нота з характарам… Яе водар я адчуваў на кожным з вакзалаў. Сталічнае мітуслівае ля другой актавы; соннае слуцкае до; прыхавана-інфантыльнае і зацікаўленае пінскае рэ; гомельскае рэ – нікому не патрэбная rec з безліччу бекараў у сваёй ісце…

Тут, між амальпрысутнасцю фары Вітаўта і новабудамі, між наднёманскімі руінамі замка і “маскоўскай ліняй” на вул. Ажэшка, між аўтэнтычных дамкоў у цесных завулках (драўляны другі паверх, цагляны першы, сетчатая нізкая агароджа і бэз, Бэз, БЭЗ !) і вакзалам а-ля “савок” - не знойдзецца ніводнага радка. І толькі лёгкая стомленасць задавальненнем выльецца ў цягніку ў адметную мелодыю. Гародня – восьмая нота яшчэ не існуючай гамы.



***Дэман Помсты***

# Іншы погляд

Калі з выглядам мужчыны - апойка (бамжаваты твар, чорная шапка, што не здымаецца ні зімой, ні летам) мы ўжо звыкліся, то відовішча жанчынаў з апухлымі тварамі ад штодзённага запою, які ўжо цягнецца не адзін год, здзіўляе. І неяк цяжка вызначыць, колькі год такой істоце – мо 25-ць, а магчыма, і сорак пяць. Карціна алеем: ля адной крамы стаіць такое з паўмехам бульбы і крычыць “у мяне запой”, пакрысе да крамы падплываюць яе сяброўкі. Звыклая з’ява простага беларускага мястэчка.

Чаму так адбываецца? Нехта скажа, што гэта ўплыў нашага усходняга суседа і павальная алкагалізацыя насельніцтва ідзе менавіта адтуль. І нават прывядзе прыклады ўласнага досведу. Але факт застаецца фактам – нацыя співаецца. Ужо зараз выпіваць па бутэльцыдругой піва кожны дзень не лічыцца кепскім нават сярод слабога пола, які паступова набіраецца фемянізму пад моцным градусам.

І такія дзяўчыны, што наскрозь прапахлі тытунём, потым хочуць сабе годных хлопцаў. Толькі няўдачнікі ды рознага рода нягегласць могуць на іх паквапіцца.

Уявіце сабе відовішча : раніца, натоўп жанчын штурмуе краму, патрабучы таннага віна, каб яшчэ паспець заліцца перад працай. Канешне, пакуль нагадвае фантастыку кшталту раманаў Я.Станкевіча, але хто ведае - магчыма, мы яшчэ гэта пабачым. Смачна есці і добра піці вам, шаноўныя паненкі!

***А.Ш***



# навіны Гомельскай філіі ТБМ

Гомельская філія ТБМ працягвае сваю працу па папулярызацыі беларускай мовы і культуры. Так, у гэтым годдзе адзначаецца 90 год з дня нараджэння беларускага пісьменніка і гісторыка Міколы Ермаловіча. Яго ідэі супярэчылі афіцыйным савецкім поглядам на гісторыю Беларусі. На падставе яго прац была створана рамантычная школа ў гістарыяграфіі нашай краіны. З гэтай нагоды сябры таварыства 6 мая зладзілі ў бібліятэцы імя Коласа прагляд фільма, прысвечанага пытанню размяшчэння першай сталіцы ВКЛ, а пасля адбыўся выступ бардэсы Вальжыны Цярэшчанкі. Хоць прысутных было няшмат, але мерапрыемства прайшло ва ўтульнай атмасферы, а пасля прагляду фільма завязалася дыскусія.

Таксама з дапамагой сяброў ТБМ 11 мая быў запрошаны з Мінску ў ГДУ імя Ф.Скарыны спецыяльны госць Аляксей Жбанаў, які выканаў унікальныя студэнцкія песні першай паловы XIX стагоддзя, што спявалі ўдзельнікі таварыстваў філарэтаў і філаматаў Аўтарамі словаў да гэтых песняў з’яўляюцца Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан, Антон Эдвард Адынец. Аўтэнтычныя мелодыі ўзноўлены па рукапісным нотным сшытку жонкі Т. Зана Брыгіды Свентажэцкай (1855г.).

12 мая была зладжана вечарына для школьнікаў Чыгуначнага раёна, прысвечаная творчасці М.Багдановіча, 120-годдзе з дня нараджэння якога мы святкуем сёлета. Такім чынам, дзейнасць гарадской філіі працягваецца, і яскравым сведчанем гэтага стала далучэнне да арганізацыі новых сяброў. Яшчэ неабходна адзначыць, што скарбнік нашай філіі – Пятро Бухавец - хутка прыступіць да выканання сваіх прамых абавязкаў (збору складак). Нагадваем памеры складак на 2011 г.:

1. Працоўныя грамадзяне РБ - 18 тыс. рублёў у год.
2. Беспрацоўныя грамадзяне - 6 тыс.
3. Пенсіянеры - 9 тыс.
4. Студэнты - 4 тыс.
5. Школьнікі - 2 тыс.
6. Грамадзяне РФ - 200 расійскіх рублёў.
7. Грамадзяне іншых краін - 5 $

# Досвед часоў Андропава

**Гомель-1983**
**Уладзіслаў Ахроменка**

Тут нядаўна адзін дзеяч згадаў пра “савецкі досвед часоў Андропава” па ўзмацненні працоўнай дысцыпліны. Падазраю, што большасць людзей пра той “досвед” ці падзабылася, ці проста нават не ўяўляе, што гэта такое. Зато добра памятаю я.

У 1983 годзе жыў я ў Гомелі, на “Сяльмашы”. Як і мае быць за Саветамі, гарачая вада была з перапынкамі нават узімку. Улетку яе не было амаль што ніколі. А таму, маючы кватэру “з усімі раскошамі”, гамяльчане былі змушаны стаяць чэргі ў лазнях.

І вось пайшлі мы з маім татам, ужо нябожчыкам, у найлепшую на той час гомельскую лазню, што па Савецкай, насупраць цырка. У “агульную” на трэцім паверсе, бо чэргі ў душавыя кабінкі былі ці не па паўтары гадзіны мінімум. Раптам адчыняюцца дзверы, і з воблака пары з’яўляецца нарад міліцыі.

Народ – сотня голых мужыкоў, у мыле. Нарад – у шынэлях, падпярэзаных партупеямі.

І тут гучыць геніяльны загад:

- Всем немедленно предъявить документы!

Пауза. Голыя мужыкі разгублена пазіраюць адзін на аднога. Потым адзін нясмела рагоча. Рогат падхоплівае другі. Па хуткім часе рагочуць ужо ўсе прысутныя. Нехта з грукатам раняе бляшаны тазік, нехта курочыцца ў сутаргах пад душам, а нехта ўвогуле апісаўся.

Па законах масавых псіхозаў неўзабаве пачынаюць рагатаць нават мянты. Бо абсурднасць сітуацыі становіцца відавочнай нават для іх. І сапраўды – дзе абсалютна голы чалавек у лазні можа трымаць дакументы?

- Граждане, мы сами все понимаем… - душыцца са смеху старшы апергрупы. - Но начальство приказало проверять документы в местах больших скоплений народа, и приказало начать именно с бань…

**Гомель-1984**

1984 год, Гомельская музычная вучэльня імя Сакалоўскага, дзя я навучаюся на 3 курсе.

Сядзім усёй групай у аўдыторыі, аналізуем паліфонію І.-С. Баха. І тут увальваецца ідыётка-ідэалагіня. Усё, кажа, прыйшоў загад з абкаму Партыі: і студэнтам, і выкладчыкам, і нават тэхнічкам неадкладна зняцца з заняткаў – і на “авашчабазу”, бульбу перабіраць. Савецкая дзяржава дбае пра дабрабыт насельніцтва. Так што пачакае ваш Бах.

Аказваецца, напярэдадні тав. Андропаў вырашыў узмацніць адказнасць за парушэнне сацыялістычнай законнасці. Абкам Партыі прыслаў на прадпрыемствы “разнарадкі” – пэўную колькасць мужчынаў адрадзіць у ДНД, каб разам з мянтамі патрулявалі вуліцы, лавілі падпітых, і асабліва – тых, хто нешта крадзе на працы.

ДНД, калі хто не ведае – гэта “Добраахвотныя Народныя Дружыны” (быў яшчэ адзін пераклад гэтае абрэвіятуры – “Дома Нехрэн Дзелаць”). Карацей, большасць мужчынаў з “авашчабазы” акурат у тое ДНД і выправілі, працаваць няма каму, збірайцеся, музыканцішкі!

І вось мы з аднакурснікамі і аднакурсніцамі на базе, перабіраем гнілую бульбу пад кіраўніцтвам нашай выкладчыцы. Тая па-дысідэнтску чыхвосціць палітыку Партыі і Ўрада – маўляў, савецкія мічурынцы ўжо новы гатунак яблыкаў прыдумалі, “андропаўка”: вяжа не толькі рот, але і рукі. Мы з хлопцамі, натуральна, думаем – а як бы выпіць. А за парканам акурат “Гастраном”, са смачным “Партвэйнам-777”, які яшчэ называўся “Тры сякеры”. Скідаемся, і я праз дзірку ў паркане пнуся па віно. Гляджу, а каля дзіркі – даўжэзная чарга нейкіх дзевак і жанчын, і ўсе з вялізнымі торбамі.




Хто такія, адкуль, чаму не праз галоўную браму?

Аказваецца, усё гэта студэнты і выкладчыкі гомельскіх ВНУ: Універсітэт, Беларускі Інстытут Інжынераў Чыгуначнага транспарту, Палітэхнічны, каторых таксама знялі з заняткаў і паслалі гнілую бульбу перабіраць. Усе яны ўжо адбылі нумар, а каб час не стаў змарнаваным, вырашылі кампенсаваць яго крадзяжом дэфіцытнай садавіны-гародніны. Таму і нельга праз брамку…

Праўда, на вуліцах ДНД ходзяць, змагаюцца з раскрадальнікамі сацыялістычнай маёмасці. Але ж не пад парканам роднай “авашчабазы”!

Паводле маіх падлікаў, кожны скраў столькі, колькі змог знесці. Іншымі словамі, па 20 кг. мінімум. Памнажаем на колькасць прыгонных музыкаў, чыгуначнікаў, медыкаў і філолагаў. Атрымліваецца каля шасці тонаў скрадзенай садавіны-гародніны толькі за суткі.

Кажуць, адзін каларадскі жук знішчае за сезон да сарака кустоў бульбы. Савецкі чалавек, які працуе пад прымусам – куды больш. І ніякія ДНД, ніякія андропавы яму ў гэтым не перашкодзяць.

…Тры дні таму гаварыў па Скайпе з былой аднакурсніцай, якая даўно ўжо грае ў сімфанічным аркестры Берліна. Я настальгічна пытаюся: маўляў, а памятаеш, як за часамі Андропава мы на авашчабазе бульбу перабіралі? Тая перапытваецца: Андропаў? А хто гэта такі, нагадай, а то падзабылася!

Шчаслівы, думаю, ты чалавек…

**ahromenka.livejournal.com**

# Таямнічы і чароўны Ўсход... Танец жывата

Усход… ён такі розны... Колькі эпітэтаў мы чулі аб ім? Казачны, загадкавы, незвычайны... і ўсё гэта-праўда! Усходам называюць тэыторыю, якія размяшчана ад краіны Ўзыходзячага Сонца і да краін Магрыба, што ў перакладзе з арабскага - Захад!

Усход - гэта край станаўлення сонца, сузірання першых і апошніх хвілін яго знаходжання на Зямлі. Самыя сімвалічныя і значныя месцы могуць быць толькі ў краінах Усходу; бо гэта частка свету, якая вызначае дзве крайнія грані сонечнага колазвароту; свет змешчаны ў паўцені світання і змяркання, і таму ён такі загадкавы і цудоўны.

Усход - гэта месца, дзе ўсё пачынаецца, месца, дзе ўсё знаходзіць свой канец і зноў адраджаецца з пачаткам новага світання.

Загадкавы Ўсход заўсёды ўслаўляўся ўсходнім танцам - танцам жывата (bellydance). Танец жывата - прыгожая і жыцця здольная мастацкая форма, форма выражэння пачуццяў і эмоцый.

Дагэтуль ідуць спрэчкі аб паходжанні танца жывата. Існуе шмат версій аб тым, дзе і як развіўся танец. Шматлікія версіі ўжо сталі міфамі. Аднак ёсць некалькі варыянтаў паходжання танца, якіх прытрымліваецца большасць. Зараз я распавяду гісторыю гэтага незвычайна выдатнага і чароўнага танца…

Аб ранніх цывілізацыях Егіпту, Грэцыі і Рыму існуе шмат ілюстрацыйнага матэрыялу, які дапамагае зразумець, які быў тады танец, аб гісторыі танца ў сярэднявеччы напісана вельмі мала. Гісторыкі дакладна не могуць назваць краіну, дзе з'явіўся гэты танец. Існуе некалькі версій, напрыклад, ёсць здагадка, што гэта Егіпет, а можа - Міжрэчча. Некаторыя лічаць, што вытокі танца варта шукаць у Індыі. У старажытнасці bellydance танчылі і ў Егіпце, і ў Грэцыі, і ў Рыме, і ў Вавілоне, і ў Сярэднеазіяцкіх дзяржавах. У наш час танец жывата стаў папулярным і на Захадзе, і спрыялі распаўсюджанню гэтай папулярнасці скандальныя выступы Мата Хары. Сама танцорка сцвярджала, што з'яўляецца выканаўцам індыйскіх храмавых танцаў. Дзякуючы ёй шмат хто пачаў ў Еўропе звязваць ўсходнія танцы выключна з Індыяй. Гэты стэрэатып існуе і па сённяшні дзень. Танец жывата стаў прыцягваць увагу ўжо пасля эпохі Мата Хары, і быў названы "bellydance" на выставе ў Чыкага каля стагоддзя назад. У нашай краіне аб гэтым танцы раней ведалі мала і звязвалі яго выключна з інстытутам гарэма на Ўсходзе.

Танец жывата не выпадкова атрымаў такую пікантную назву. "Жывот" - гэта жыццё. Значыць, гэта танец жыцця. З кім і з чым асацыіруецца само паняцце "жыццё"? Вядома ж, з жанчынай-маці і з зямлёй. І сапраўды, танец жывата непасрэдна звязаны з развіццём культу Багіні Ўрадлівасці, Багіні-Маці. У розных народаў гэтая багіня звалася па-рознаму: Анахіта, Ісіда, Іштар, Афрадыта. Гэты культ быў распаўсюджаны ў шматлікіх старажытных дзяржавах, бо земляробства з'яўлялася асновай іх эканамічнага жыцця (напрыклад, у Егіпце, Вавілонскім царстве, у Індыі). У міфалогіі шматлікіх старажытных народаў Усходу неба асацыявалася з богам-мужчынам, а зямля - з багіняй-жанчынай. У выніку іх шлюбу з'явілася ўсё жывое, а таксама іншыя багі. Рытуалы ў гонар богаў нярэдка суправаджаліся музыкай і танцамі, якія не толькі ўслаўлялі, але і адлюстроўвалі функцыі гэтых багоў. Танец – самы выразны сродак для адлюстравання якой-небудзь дзейнасці. Калі казаць аб танцы жывата, то ён адлюстроўвае працэс зачацця, выношвання дзіцяці і, нарэшце, нараджэння. Па меры развіцця старажытных цывілі-



зацый танец змяняўся і выходзіў за межы рэлігійнага культу. З'явіўся другі накірунак у яго выкарыстанні - свецкі. Гэта значыць, танец становіцца забаўляльным элементам у паўсядзённай культуры ўсходніх людзей.

Дагэтуль у некаторых бедуінскіх плямёнаў існуе звычай, калі жанчыны збіраюцца ў вялікім шатры і танчаць вакол парадзіхі, дапамагаючы ёй такім чынам у родах і сустракаючы нараджэнне дзіцяці радасцю, каб жыццё яго было шчаслівым. У Турцыі, арабскіх краінах і на Каўказе ў цяперашні час часта запрашаюць выканаўцаў танца жывата на вяселле, жадаючы маладым дабрабыту і шчасця. А якое сямейнае шчасце можа быць без дзяцей? На Ўсходзе шматдзетныя сем'і лічацца самымі шчаслівымі, а іх бацькі карыстаюцца адмысловай павагай.

Паступова паганства пачынае выцясняцца, спачатку ў сувязі з зацвярджэннем хрысціянства ў Рыме з IV ст. н. э., затым дзякуючы распаўсюджванню ісламу на Блізкім Усходзе і ў Сярэдняй Азіі ў VII-IX стст.

З цягам часу знікае і культ Багіні кахання і ўрадлівасці. Аднак танец жывата, як частка гэтага культу, працягваў карыстацца папулярнасцю, губляючы з часам сваё рэлі-

гійнае значэнне. Зрэшты, свецкі варыянт гэтага танца існаваў нароўні з храмавым, з'яўляючыся цікавым і вясёлым відовішчам( напрыклад, на кірмашах). Дзяўчыны з бедных сем'яў маглі зарабіць сабе добры пасаг, танчачы на базанай плошчы. Гісторыя ведае выпадкі, калі рабыня станавілася гаспадыняй у хаце свайго новага гаспадара пасля ўдалага выканання танца жывата на нявольніцкім рынку.

У цяперашні час усходні танец становіцца ўсё больш папулярным. Шмат дзяўчын імкнуцца авалодаць гэтым усходнім мастацтвам. Але без добрага педагога немагчыма спазнаць усе тонкасці беліданса. У нашым горадзе ёсць выдатны клуб па мастацтве ўсходняга танца - "РОКСОЛАНА". Кіраўнік клуба - Казлова Галіна (Роксолана) - сертыфікаваны педагог з катэгорыяй Беларускай Лігі Танца. Клуб працуе па кірунках класічны беліданс, фальклорны танец, шоў-беліданс, а таксама супрацоўнічае з іншымі клубамі і займаецца арганізацыяй правядзення майстар-класа вядомых выкладчыкаў і выканаўцаў усходняга танца ў Беларусі.

Ала ДАРАШЭНКА

Расстраляная літаратура.
Крывёй і радкамі.
Пішу свой верш на Свабоду.

“Ніколі праўда не ўмірае”, -
Пісаў Дубоўка зацкаваны.
Колькітысячагадовы плагіят.

Беларускую “Санта-Барбару”
Напісаў Гарэцкі.
Назваў “Камароўскай хронікай”.

“Едзе трактар – дыр-дыр-дыр,
Мы змагаемся за мір”.
Дубоўка ці Хадановіч?

***Дэман Помсты***

# Таварыства "Тутэйшыя"




Беларуская літаратурная арганізацыя канца XX ст. (1986/1987 – 1990). Узнікла напрыканцы 1986, калі маладыя літаратары аб’ядналіся ў суполку, якая збірала моладзь з усіх рэгіёнаў Беларусі, прываблівала людзей, якія былі не абыякавыя да праблемаў беларускай літаратуры. 25 красавіка 1987 г. адбылося абранне кіраўніцтва Таварыства. Старшынём стаў Анатоль Бяляцкі, намеснікамі былі Віта Казлова і Сяргей Кавалёў; адказным за паэзію быў абраны А.Сыс, за прозу А.Глобус, за дзіцячую літаратуру – П.Васючэнка, за крытыку – С.Дубавец, за драматургію – У.Сцяпан, за выступленні – М.Талочка. 10 снежня 1987 г.адбыўся першы літаратурны вечар Таварыства.

Таварыства “Тутэйшыя” было ўтворана з мэтай абараняць свае правы, свае погляды і перакананні, супрацьстаяць жалезнай іерархічнай структуры Саюза пісьменнікаў. У Таварыстве існаваў маніфест, які стварыў С.Дубавец. У першай частцы маніфеста дэкларавалася, што літаратура – гэта Бацькаўшчына, а пісьменнік з’яўляецца носьбітам нацыянальнага ідэалу. Маніфест “Тутэйшых” забараняў неапраўдана частае, банальнае ўжыванне словаў Беларусь, Бацькаўшчына, Радзіма, Айчына, Народ, маці, любоў, душа, сэрца, боль, мір, барацьба… Маніфест “Тутэйшых” утрымліваў кодэкс сапраўднага літаратара-патрыёта. Ён быў надрукаваны ўпершыню ў Польшчы і існаваў у поўнай адпаведнасці са сваім функцыянальным прызначэннем.

У 1988 выйшла першая кніжка Таварыства ў Бібліятэцы часопіса “Маладосць”. Таксама творы сяброў Таварыства друкаваліся ў розных газетах, часопісах. У Таварыства не было свайго рэгулярнага выдання. С. Дубавец надрукаваў некалькі нумароў самаіранічнага выдання “Кантроль”, а значная частка твораў маладых пісьменнікаў з’яўлялася ў някляеўскай “Крыніцы”. У 1989 г. выйшаў зборнік “Тутэйшыя”. Ён паказаў, чаго дасягнулі ўдзельнікі Таварыства, хоць у гэта выданне трапілі і выпадковыя, не заўсёды высокамастацкія творы.

Таварыства “Тутэйшыя” не было афіцыйна скасаванае, хаця ў канцы 1988 года маладыя літаратары скончылі сваю дзейнасць як літаратурная суполка. Таварыства аб’ядноўвала каля 60 чалавек, што жылі па ўсёй Беларусі. Не ўсе сябры сталі пісьменнікамі, але ўжо сёння мы маем прозвішчы выдатных паэтаў, пісьменнікаў, драматургаў, крытыкаў – сяброў Таварыства: Анатоль Сыс, Сяргей Дубавец, Адам Глобус, Алесь Бяляцкі, Сяргей Кавалёў, Міхась Шайбак, Андрэй Федарэнка і іншыя. Яны, дзякуючы амбітнасці і мастацкай актыўнасці, выяўлялі прыкметы новага мастацтва, новага пакалення. “Тутэйшаўцы” адмаўляліся ад традыцыйнага мімезісу, звярталіся да паказу інтымнага жыцця чалавека.

Крыніца: Бязлепкіна А. Разам і паасобку: Таварыства "Тутэйшыя". Мн.: Беларускі кнігазбор, 2003.



## Лазарэнка Любоў

Нарадзілася ў 1990 г. Першы верш напісала ў 7 класе. Любіць развважаць аб жыццёвых перыпетыях, у асноўным любоўных.

***

Горкім сном, расчараваннем
З непрыгожай, не сваёй
Боль і смерць у нежаданні
Сцяты чорнаю крывёй

Зноў спатканнем і надзеяй –
І праз неўміручы час
Адгукаюцца падзеі,
Чый агонь яшчэ не згас.

І вакол самоты подых –
Трэці позірк на наш час,
Дзе чаканне ў карагодзе
Танчыла ізноў для нас

Мы згубіліся ў свеце,
Суддзі жыццяпісу тых,
Хто не ўмее хлусню плесці,
Хто змагаецца за ўздых.

Мы на сцэнах летапісных
І дагэтуль пішам сны,
Каб знайсці тых самых існых –
І званіць аб іх у званы.

Мы прытулку не шукаем –
Ёсць багам дзе бавіць час…
Мы цябе калісь спаткаем.
Свой жыцця гатуй нам сказ.

***

Увесь тыдзень прайшоў у самоце…
У жаданнях і справах. А то ж…
Курсавая, каханне і штосьці,
Што мне сэрца кранае ўсе ж.

І каханне, каханне, каханне…
Забірае ўсе думкі ў палон.
Курсавая, самота, чаканне.
Сню штодзень адзін той жа я сон.

Дапамогі прашу, дапамогі!
І глядзяць мае вочы ў даль…
Курсавая, жаданне дарогі,
Папулярнае слова “пічаль”.

Увесь тыдзень прайшоў у самоце…
У жаданнях… І справах. А то ж.
Я чакаю – а ён не прыходзіць.
Каля вены застыў у руцэ нож.

**Наша каханне**

Ляцяць, бягуць шляхі – дарогі,
Ды толькі зноўку мо было:
Усе думкі трапілі ў астрогі –
Ні ўстаць, ні ўзмахнуць крылом.

Магчыма, штосьці не дадалі
Ці штось занадта аддалі…
Але мы многа не казалі.
І стылі пачуццяў вуглі.

Але ж так хочацца паверыць,
Што будзе ўсё… І будзе як!
І ў адчыненыя дзверы
Каханне зойдзе ціха так.

Што хопіць з нас і тых абдымкаў,
Паветра аднаго на двух…
Пад вейкамі звіняць карцінкі
І чуеш блізка сэрца стук…

І пагляжу я толькі ў вочы –
І шчасце хопіць на жыццё…
Усе нашы дні… І нашы ночы…
І вечнае- з табой - быццё.

Ахвярам выбуху 11.04.11

Праз волю, хараство уласных дзен
Кранае ўсё часцей без суму і надзей.
Мізантрапічны позірк,нібы чэмпіён,
Мне паказаў усіх благіх людзей.

Я дакрануўся да вытокаў адзіноты,
Калі ўся змора апынулася за ёй.
Мне дастаткова ведаць, што сумёты
Калісьці будуць усёй маёй сям'ёй.

Адвечны боль да вас ніколі не загіне,
Усё застанецца так, як і было.
Стрэмка мізэрны шлях на ўспамін пакіне,
Не толькі сорам, - усё да нас дайшло.

Дык паспрабуем жа спытаць у адзіноты,
Навошта жывём? Мы ж бачым за сцяной -
Нам не пазбегнуць жалю і самоты,
Усе і разам апынемся пад труной.

20 красавіка, 2011
***Яўген Іхонкін***



# КАХАННЕ і ГАШЫШ



З-за парт выскоквалі дзяўчаты
І да буфету грамадой.
І там, у натоўпе бесаватым,
Жавалі смажанкі з вадой.
Паўсюдна чуліся размовы
Пра рэфераты й кунілін…
Гуся, язык і макароны,
Якіх уночы нельга, блін!
У руцэ сціскаў Васілька коржык
І да сябровак падышоў.
-Пра рэферат прамовім, можа?
… нічога лепей не знайшоў
Герой наш, каб пачаць размову
З каржом малочным у руцэ.
Дзве павярнуліся галовы,
Адна з румянцам на шчацэ.
-О, наш герой! – Марго сказала
І Вольгу штурханула ў бок.--
Глядзі-ка, коржыкам вакзальным
Вас спакушае галубок!
-Ой што вы, што вы, губашлепка,
Хаця б і з коржыкам, а што?
Твайго зусім апахавэлка
Няма. Мо згінуў у паліто?
Ці бублік точыць у адзіноце,
Ці недзе корч шліфуе свой?
Ты проста, цыпачка, у пралеце!
А гэта Вася, мой герой!
Я Воля, гэта Маргарыта...
А ну-ка, месца патрымай!
Ад тых вунь двух, негабарытных
Мы возьмем сок. фа-ры-фа-фай.
Два сокі нам і медуніцу.
-Гляджу, ты, Воленька, запела.
Што, зашкварчэла пад спадніцай
Ад віду сельскага Рамэо?
-Нармальны хлопец, хоць і з вескі.
-Ну-ну,а хто мне ўчора тут
Скуголіў аж з акцэнтам польскім:
“Каб я, ды з сельскім, у інстытут...”
- Такая ўжо, Марго, ты звяга.
Пабач, сядзіць і коржык есць,
І ўся ягоная ўвага
На мне адной…аж дышыць ледзь.

Тым часам Ваські думы плылі,
Як у акіяне караблі,
І Сцылаю з Харыбдай былі
Грудзей дзявочых вяршалі.

-А што, няхай сабе і з вескі,
Ну пагуляем да зімы…
-Угу, а потым дзве палоскі…
- Сплюнь, дура! Вось, нарэшце, мы...
Ад гэтых словаў нечаканых
Закашляў Васька тым каржом,
І камедыйна, і пагана
Заржаў буфет па-над хлапцом
--Ты што, ты што! - Марго падбегла
І дала моцна па спіне.--
То амаль грузіш у войску цэглу,
То ледзь ня дохнеш пры стале.

Сакраментальным каментарам
Агучыў Вася ту падзею,
І было бачна побач тварам
Вальжыны стан, і нешта з ею
Адбылася, хоць звонку быццам
Не здарылася ёй змяніцца.
- Ну што, а семай ля фантана?
Прамовіў Вася і запіў
- Окей, давай, табе пагана?
- Ды не, нармуль, ну я паплыў.
- А дзе ж твой сябра-- Толік быццам?--
Марго паспела запытаць.
- Цябе ён знойдзе сам, сястрыца!
- Ну сам дык сам – што тут сказаць.

- Ну як табе твой хлопчык-зайчык,--.
Марго спытала Волю ўміг.
Пластамасавы скамкаў стаканчык,
Сказала тая – ціхі псіх.
- Окей. Вярнемся к дагавору
Лічыць свіданкай будзем што?
- Калі ў кафэ завуць мажорна
Ці проста. Ну хаця б у кіно.

Алесь Плотка

Працяг. Пачатак у № 7, 8

# славянскія тэатральныя сустрэчы




12 мая ў абласным цэнтры Рэспублікі Беларусь, у горадзе Гомелі, стартаваў XI міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы". Праходзіў ён пад лозунгам "За духоўнасць і маральнасць". Яскравае адкрыццё фестывалю адразу зблізіла тэатральных герояў і гледачоў. Шыкоўныя касцюмы, прыемныя галасы артыстаў і цёплыя словы вядучых паклалі добрае ўражанне з самага пачатку фестывалю.

Славянскія тэатральныя сустрэчы адкрыў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы (г. Мінск). Колу гледачоў была прапанавана п'еса "Не мой" (паводле аповесці "Нямко" Алеся Адамовіча), прысвечаная дню вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам выступіў Аляксандр Гарцуеў, кампазітарам – Алесь Хадоска, пластычнае вырашэнне – Яўгеніі Кульбачнай. Вельмі прыемна было, што спектакль прайшоў на беларускай мове.

Першае, што адразу ўразіла і закранула струны душы, - моцны ўступ: гучала музыка, на сцэне з'явіўся ваенны з музычным інструментам. На сцэне дасканала быў паказаны той час, калі была вайна, абмаляваны характары немцаў.

Арыгінальная рэжысёрская задумка: уключыць сцэну з дасканалымі элементамі паказу жыцця, дзе ў хату да простых беларускіх жанчын прыходзяць немцы. Паліна – галоўная гераіня спектакля – ужо з самага пачатку знаёмства з гледачамі прадстае дзяўчынай з характарам, якая добра ведае цяжкасці жыцця ў ваенны час, але, як і кожная дзяўчына, яна не можа ўстрымацца перад чарамі кахання. Паміж Палінай і немцам Францам, які прыйшоў у хату да гэтай маладой дзяўчыны, што жыла з маці, адразу завязваюцца адносіны…прычым моцныя. Паміж імі ўспыхвае каханне, дзеля якога людзі ідуць насустрач адзін аднаму, ідуць да узаемнасц і праз жахлівыя абставіны вайны. Праз учынкі Паліны і Франца добра бачна, што ў іх сапраўднае каханне, якое будзе жыць пры любых абставінах. За тыя пакуты, якія абодва героі перажылі, за той цяжкі шлях жыцця, па якім ім трэба было прайсці, Бог падарыў ім дзіця, якое стала радасцю Паліны і Франца на ўсё жыццё.

Нельга не адзначыць тое, што ў спектаклі рэжысёр таксама звярнуўся і да міфічных элементаў. Так, да Паліны прыходзіць прывід маці і папярэджвае пра тое, што адбудзецца ў жыцці яе любай дачкі. Такія сцэны надаюць спектаклю больш каларытнасці і багацця.

Кожны артыст пражыў жыццё героя, ролю якога ён іграў. Тонкі псіхалагізм характараў, светаўспрыманне навакольнай рэчаіснасці – усё гэта ўдала змаглі пранесці праз сваю душу і данесці да гледачоў дзякуючы свайму вялікаму таленту заслужаныя артысты Беларусі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра Янкі Купалы.

***Ала Дарашэнка***

Спонсар гэтага нумару Андрусь Сувалаў. Выказваем яму вялізную падзяку за фінансавую падтрымку.

## АБ'ЯВЫ

Прадаем бананы і іншую лухту. Для эстонцаў зніжкі.
-гомельскія ТБМаўцы -

Аддаецца ў добрые рукі (пажадана з яжовымі рукавіцамі) свядомы кот Бялсат Трэці. Ведае напамяць "Магутны божы" і "Тры чарапахі", час ад часу вымурквае антыдзяржаўныя лозунгі -Зъла Муха-



мы і самі з вусамі (гл. стар. 1)

Толькі РАЗАМ
інфармацыйны бюлетэнь
№ 5 (10) май 2011 г.

выходзіць як атрымаецца
распаўсюджваецца бясплатна

рэдактары:
Quo Vadis, Welbark

капіраванне дазваляецца
толькі ў вялікай колькасці

welbark@gmail.com
наклад: 199,5 асобнікаў